# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:**
Вільня, Вострабрамска вул. 9
(Ostro-bramska 9).
Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праудзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 100 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 1200 м.
(з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 400 мк., сярод тэксту 600 мк. і на апошняй страніцы 200 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Субота 25-га лістапада 1922 г. № 38 (58).

*Вільня, 25 лістапада 1922 г.*

28 лістапада адчыняецца першае паседжаньне Сойма і Сэната з мэтай выбараў прэзыдыумаў. Газэты дагадываюцца, што ў прэзыдэнты Сэната будзе выбраны Тромпчынскі, а маршалкам Сэйма—адзін з лідэраў партыі людоўцаў—Ратай.

Але як будзе трудна ўгадаць, бо вынікі выбараў паслоў паказалі, што ані ў Сойме, ані ў Сэнаце ня будзе пераважнай большасьці: правіцы налічваюць 40 проц., столькіжа працэнтаў левіцы і 20 прац. няпольскіх народнасьцей. Правіца робіць захады перад пястоўцамі, каб тыя прымкнулі да іх і такім чынам атрымалася-б большасьць правіцы. У торгах даходзяць да таго, што абецуюць месца прэзыдэнта рэспублікі лідэру пястоўцаў Вітасу.

Як бы там ня было — ясна адно, што гаспадарамі ў Польшчы акажуцца польскія шовіністы, што будзе ўсё зроблена, як справа, так і злева, каб пазбавіць правоў бытаваньня нацыянальным меншасьцям, каб адсунуць іх ад законадаўчых установ і ўправы гаспадарствам.

Дагэтуль польская палітыка ніяк не магла ўразумець гэтай элемэнтарнай праўды, што ў сучасны момант народ і нацыя маюць ня толькі этнографічнае, але і дзяржаўнае значэньне і што ў прававым гаспадарстве ня можа быць падзелаў грамадзян на горшых і лепшых, не павінна быць уціску сялян і работнікаў і дзікіх гвалтаў над іншымі нацыянальнасьцямі.

Беларускі народ атрымаўшы пабеду пры выбарах ня толькі на нацыянальным фронце, але і соцыяльным, бо не даў сваіх галасоў эндэкам, павінен і далей быць на старожа і дружна вясьці барацьбу на мейсцох за свае правы; гэтым ён падтрымае сваіх паслоў у іх труднай барацьбе сярод панскіх і шовіністычных кругоў, пануючых у сучаснай Польшчы.

Пабеда наша ў выбарах гэта толькі першы крок у змаганьні за нашае бытаваньне.

Барацьба яшчэ доўгая і цяжкая.

Але мы даказалі, што мы ёсьць, што мы, перамогшы рэпрэсыі і крыўдныя законы, сьвядома і аднагалосна заявілі хто мы і чаго жадаем. Гэтым самым мы пачулі сваю сілу, распалілі сваю веру, сталі аднэй пакрыўджанай, працоўнай сямьёй і вышлі на шлях да сьветлай будучыны і ніякія чорныя сілы не ўтрымаюць нашага цьвёрдага поступу і дружнага паходу прабуджанага народу.

**Ж.**

## З газэт.

### Шчырыя прызнаньні.

Польская консэрватыўная газэта „Słowo“ у Вільні ў № 88 (з 14 лістапада) надрукавала вельмі цікавыя развражаньні аб польскай палітыцы адносна да „інародцаў“. Газэта наракае, што

„Ані „Вызволене“, ані Рады Людовыя ня выратавалі нас ад пабеды нацыянальных меншасьцей“.

Так сама і Сойм і ўрад не дапялі сваей мэты, бо

„вайсковая калянізацыя (асадніцтва), мураўёска-аракчэеўская выдумка Рад Людовых, адвярнула ад нас (палякоў) сэрцы тутэйшага насяленьня“.

А далей — цэлы абвініцельны акт польскай палітыцы на „усходніх крэсах“:

„У першым пэрыадзе незалежнасьці Польшчы і нашым законам і адміністрацыі надавала тон наша (польская) нацыяналістычная дэмагогія. Ні на адну іоту мы не адыйшліся ад прускіх узораў. На Усходзе мы паступалі горш за маскалёў. Тыя прынамся ў сярэдзіне XIX веку стараліся чым больш польскае моладзі прыцягнуць у расейскія школы дзеля асыміляцыі. Мы-ж адапхнулі ад сябе беларусаў, прымушаючы іх ехаць на чэшскія стыпэндыі... Наш урад і грамадзянства ў роўнай меры блага адносіліся да немцаў, расейцаў, беларусаў, як і да украінцаў і жыдоў... Вынікаў доўга ждаць ня прышлося. Творыцца блёк нацыянальных меншасьцей і, ведама, перамагае на лістападавых выбарах“.

Усё гэта—думкі ня новыя, ды цікава, што да гэтага прызнаецца п о л ь с к а я газэта. Дый не абы-якая газэта: надовячы яна-ж сама друкавала на сваіх страніцах подлую правакацыю, называючы сьпісак наёмнае банды „зялёнадубцаў“ сьпіскам „беларускім“ і заяўляючы, быццам атрыманьне гэтым сьпіскам здраднікаў беларускае справы, д з е с я ц ё х галасоў у Вільні ёсьць знак, што тут ніякіх беларусаў няма!

А што скажа „Słowo“ на тое, што з Віленшчыны прайшоў 38 тысячамі галасоў сэнатар-беларус?!

Як відаць, факт праходжаньня ў Сойм і Сэнат каля 20 беларусаў прымусіў шмат каго з палякоў здаць сабе справу з шаленства польскае палітыкі, якая манілася гвалтоўнымі крокамі і забаронамі вынішчыць „інародцаў“, — у першы чарод беларусаў.

Ведама, ў палітыцы звычайна дужы душыць слабога. Вось-жа беларусы давялі ўсяму сьвету, што яны не такія ўжо слабыя,—дык і „паны палажэньня“ другую песьню запяялі.

Ды трохі прыпазьніліся: пабеда беларусаў і, наагул, „інародцаў“ перад усім сьветам скомпрамітавала польскую палітыку, а прызнаньні «Słowa» компромітуюць польскіх консэрватараў, што за тры дні раней ігралі ў тон свайго ўраду.

## Сталін аб саюзе радавых рэспублік.

Адзін з правадыроў расейскай камуністычнай партыі Сталін сказаў аб саюзе радавых рэспублік ніжэйпададзенае:

Паглумленыя гаспадарчыя прылады нашых рэспублік і адсутнасьць падтрыманьня праз заграгічны капітал стварылі варункі, пры якіх ані адна

